ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 1 (2455) 4 студзеня 1996 г.

Выдаецца з 1955 г. Цана 1000 рублёў.

## СВЯТА БОЖАГА НАРАДЖЭННЯ

(Фотарэпартаж з Чырвонага касцёла змешчаны на 3-й стар.).

## "КАЛЯДНЫЯ ЎЗОРЫ"

### ВЫСТАВА Ў НАЦЫЯНАЛЬНЫМ МУЗЕІ ГІСТОРЫІ І КУЛЬТУРЫ БЕЛАРУСІ

Гэта прыгожа, гэта выкшталтна, гэта дзівосна. Гэта трэба ісці і глядзець. Прыкладна такія пачуцці агортваюць у першыя хвіліны на выставе "Калядныя ўзоры". Традыцыйнай, дадам, выставе. Нацыянальны музей гісторыі і культуры Беларусі і Беларускі саюз майстроў народнае творчасці трэці год запар робяць нам такі падарунак -- выставу майстэрства перад святам Раства. Ткацтва, ганчарства, саломапляценне, дробная пластыка, выцінанкі, мініяцюрны роспіс... Што яшчэ! Карункі, фларыстыка, разьба па дрэву, скураныя вырабы, мэбля... Шляхетная традыцыя і суперавангард, высокі дызайн, "от кутюр"... Якія капялюшыкі, якія аксесуары -- дамскае шчасце. Каб не былі пад шклом у вітрыне, прылашчыў бы лакавыя яйкі з адмысловымі мініяцюрамі -- жанравымі сцэнкамі, тварыкамі прыгажунь у нацыянальных уборах.

Святочная ялінка, убраная творамі "фрывалітэ" і саламянай фантазіі.

(Заканчэнне на 7-й стар.).

## ПАШТОЎКА З БЕЛАРУСІ



Фальклорны ансамбль "Крупіцкія музыкі".

Фота Віктара СТАВЕРА.

*НЕДАЦЯГВАЕМ ДА СУСВЕТНАГА ЎЗРОЎНЮ*

## БЕЖАНЦЫ НА БЕЛАРУСІ

**Не так даўно ў Мінску адкрылася прадстаўніцтва Вярхоўнага камісарыята па справах бежанцаў Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. Узначальвае яго спадар Турэ БЕРЭСЕН, які даў інтэрв'ю вашаму карэспандэнту.**

-- *Спадар Берэсен, як вы ацэньваеце працу Ўпраўлення Вярхоўнага камісарыята па справах бежанцаў на тэрыторыі былога СССР?*

-- Я лічу, што ў нас быў адзін вялікі поспех і адна вялікая няўдача. Поспехам можна лічыць аперацыю, калі на тэрыторыю Таджыкістана былі вернуты бежанцы з Афганістана. З нашай дапамогай тады былі ўзноўлены каля 20 тысяч дамоў. А няўдачай я лічу Абхазію. Нягледзячы на тое, што дакументы аб вяртанні бежанцаў падпісаны, абхазскія ўлады супрацьдзейнічаюць вяртанню грузін і нападжваюць этнічныя чысткі. Хачу заўважыць, што і Таджыкістан, і Абхазія па сітуацыі вельмі далёкія ад Беларусі. Беларусь -- цывілізаваная краіна, спакойны куток, дзе няма спаленых дамоў, этнічных чыстак, няма патокаў бежанцаў з блізкіх тэрыторый. Але гэта не азначае, што тут няма праблем. Прычым, іх не могуць вырашыць толькі беларускія ўлады і толькі на тэрыторыі Беларусі.

(Заканчэнне на 3-й стар.).

ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

*МАЛЕНЬКІЯ РАДАСЦІ*

## СОТЫ ТРАЛЕЙБУС

**У вытворчым аб'яднанні "Белкамунмаш" сабраны соты па ліку тралейбус. Выканана заданне 1995 года па выпуску высокаэфектыўнага рухомага саставу для пасажырскіх перавозак.**

**27 снежня ў Мінску на дыспетчарскай станцыі "Кунцаўшчына" была арганізавана ўрачыстая перадача юбілейнага тралейбуса мадэлі 201 гарадской пасажырскай гаспадарцы.**

**У мерапрыемстве прыняў удзел Прэзідэнт рэспублікі Аляксандр Лукашэнка, які і вызначыў у свой час для аб'яднання гэтае заданне: выпусціць на працягу года 100 такіх машын.**

**Летам бягучага года ён пабываў у аб'яднанні "Белкамунмаш", сустрэўся з яго спецыялістамі, рабочымі.**

**Генеральны дырэктар аб'яднання Іван Сафонаў паведаміў аб рашэнні выпусціць у наступным годзе ўжо 500 такіх тралейбусаў, каб забяспечыць імі не толькі сталіцу, але і ўсе астатнія беларускія гарады, якія эксплуатуюць электратранспарт.**

*З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ*

## "АДНОСІНЫ З РАСІЯЙ БУДУЦЬ ВЫДАТНЫМІ..."

**"Якая б раскладка палітычных сіл пасля выбараў у Дзяржаўную думу ў Расіі ні была, у Беларусі з ёю будуць выдатныя адносіны", -- так адказаў Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка на шматлікія пытанні журналістаў наконт гэтага пасля заканчэння нарады 22 снежня. Ён адзначыў, што калі б да ўлады прыйшоў Я.Гайдар, то з ім ён наўрад ці знайшоў бы разуменне. "Зрэшты, -- дапоўніў А.Лукашэнка, -- часта бывае так, што ў перыяд перадвыбарчай кампаніі гавораць адно, а потым, адчуўшы рэальную глебу, праводзяць зусім іншую палітыку".**

**Тое, што пятая Дзярждума Расіі выбрана на чатыры гады, на думку Прэзідэнта, будзе гарантам некаторай стабільнасці. Як лічыць А.Лукашэнка, эканамічныя адносіны дзвюх дзяржаў пасля выбараў павінны паглыбіцца. Ідуць далейшыя напрацоўкі ў гэтым плане. Прэзідэнт падкрэсліў, што павышаецца і роля Беларусі ў знешняй палітыцы Расіі. С[illegible]чаннем таго можа служыць афіцыйны візіт кіра[illegible] беларускай дзяржавы ў Расійскую Федэрацыю, які рыхтуецца на самым высокім узроўні.**

**А вось ад вынікаў маючых адбыцца прэзідэнцкіх выбараў у Расіі, лічыць кіраўнік беларускай дзяржавы, хутчэй за ўсё будзе залежаць уся знешняя палітыка Расіі. Паколькі, адзначыў ён, прэзідэнт у адпаведнасці з расійскай Канстытуцыяй -- дамінуючая фігу[illegible]**

*РЭЛІГІЙНАЕ ЖЫЦЦЁ*



**Першы ў Беларусі кардынал Казімір СВЁНТЭК напярэдадні Каляд наведаў Віцебск і адправіў набажэнства ў касцёле Св.Барбары. Сотні віцьблян сабраліся на сустрэчу з кардыналам. Для вернікаў гэта была радасная падзея.**

*ЗАРАБОТНАЯ ПЛАТА*

## РЭКАМЕНДАВАНА — ПАВЫСІЦЬ

**Нацыянальны савет па працоўных і сацыяльных пытаннях, куды ўваходзяць прадстаўнікі ўрада, прафсаюзаў і наймальнікаў, на сваім пасяджэнні 21 снежня прыняў рашэнне рэкамендаваць кіраўніцтву рэспублікі разгледзець пытанне аб павышэнні з 1 студзеня 1996 года памеру мінімальнай зарплаты і тарыфнай стаўкі І разраду да 100 тысяч і 110 тысяч рублёў адпаведна.**

**Як паведаміла БелаПАН кампетэнтная крыніца, падчас пасяджэння прадстаўнікоў урада ўдалося пераканаць у неабходнасці такога кроку, і, такім чынам, гэтае пытанне можна лічыць практычна вырашаным. У той жа час невядома, як урад адрэагуе на прапанову прафсаюзаў павысіць мінімальную зарплату і стаўку І разраду да ўказанага памеру толькі на перыяд першага квартала 1996 года, а затым зрабіць чарговае павышэнне.**

**На пасяджэнні Нацыянальнага савета таксама быў адобраны праект генеральнага пагаднення на 1996 год.**

*РЭАКЦЫЯ ПРЭЗІДЭНТА*

## НЯМА ПРЫЧЫН БУНТАВАЦЬ

**"Сёння няма прычын для таго, каб бунтаваць", -- заявіў днямі Аляксандр Лукашэнка, каменціруючы па просьбе журналістаў заяву прафсаюзнага лідэра Уладзіміра Ганчарыка аб тым, што вядучымі прамысловымі прафсаюзамі разглядаецца магчымасць правядзення ў студзені 1996 года агульнарэспубліканскіх акцый пратэсту.**

**Па словах кіраўніка дзяржавы, у цывілізаванай краіне ўсе спрэчныя пытанні павінны вырашацца мірна, перагаворным шляхам. У выпадку ж, калі прафсаюзы, па словах А. Лукашэнкі, пажадаюць "дэстабілізаваць абстаноўку" ў краіне і паказаць, што яны "абаронцы народа", рэакцыя з боку Прэзідэнта будзе "адэкватная". У чым канкрэтна яна праявіцца, А. Лукашэнка не ўдакладніў.**

*АКЦЫЯ ААН*

## ДЗЕНЬ ПАМЯЦІ ЧАРНОБЫЛЯ

**26 красавіка 1996 года аб'яўлена Міжнародным днём памяці Чарнобыля -- такое рашэнне па прапанове дэлегацыі Украіны прыняла 60-я сесія Генеральнай Асамблеі ААН.**

**Сесія зацвердзіла пастанову "Аб умацаванні міжнароднага супрацоўніцтва і каардынацыі намаганняў у справе вывучэння, змякчэння і мінімізацыі вынікаў чарнобыльскай катастрофы", мэта якой -- прыцягнуць увагу міжнароднай супольнасці да праблем, што ўзніклі ў выніку найбуйнейшай тэхнагенна-экалагічнай катастрофы ў гісторыі чалавецтва, і ў той жа час падтрымаць намаганні Украіны, Беларусі і Расіі ў пераадоленні яе вынікаў.**

*СВЯТОЧНАЯ СТАТЫСТЫКА*

## КАТАЛІЦКІЯ КАЛЯДЫ

**Нараджэнне Сына Божага Дзевай Марыяй -- Каляды сустрэлі большасць хрысціянскіх к[illegible]есій і дэнамінацый Беларусі 25 снежня.**

**Гэтую дату адсвяткавалі рыма-каталікі (360 прыходаў), грэка-каталікі (11 прыходаў), кальвіністы (адзін прыход), лютэране (тры прыходы), хрысціяне поўнага евангелля (18 абшчын), хрысціяне веры апостальскай (восем абшчын), царква Хрыста (пяць абшчын), сход хрысціян (дзве абшчыны), новаапостальская царква (16 [illegible]чын). Частка евангельскіх хрысціян баптыстаў і [illegible]ысціян веры евангельскай (пяцідзесятнікаў) сустрэлі Каляды таксама ў гэты дзень, астатнія вернікі гэтых пратэстанцкіх дэнамінацый, якіх у Беларусі налічваецца адпаведна 188 і 293 абшчыны, адсвяткуюць гэтую дату 7 студзеня.**

*ЛЕПШАЯ ДЗЕСЯТКА*

## ЛАЎРЭАТЫ ГОДА

**У традыцыйнай навагодняй анкеце каля сарака беларускіх спартыўных журналістаў першае месца аддалі чэмпіёнцы свету ў кіданні кап'я Наталлі Шыкаленка.**

**У бягучым годзе мінчанка, акрамя перамогі на сусветным першынстве, выйграла 15 з 16 прэстыжных сусветных стартаў, у яе паслужным спісе самы далёкі кідок кап'я ў сезоне -- 71,18 метра.**

**Другім па выніках апытання быў шасціразовы алімпійскі чэмпіён Барселоны гімнаст Віталь Шчэрба. На апошнім чэмпіянаце свету ў Кітаі ён заняў другое месца ў мнагабор'і, завяваў залатыя медалі ў вольных практыкаваннях і на брусах, трэцім быў у апорным скачку.**

**Трэцім лаўрэатам стала мінская кідальніца дыска Эліна Зверава. На сусветным чэмпіянаце ў Гётэборгу яна ўжо ў першай спробе паслала снарад да 70-метровай адзнакі, што прынесла ёй вышэйшую ўзнагароду спаборніцтваў.**

**У дзесятку лепшых увайшлі таксама Святлана Парамыгіна (біятлон), Наталля Зверава (тэніс), Ларыса Лук'яненка (мастацкая гімнастыка), Эдуард Хямяляйнен (лёгкая атлетыка), Барыс Гельфанд (шахматы), Ігар Астапковіч (лёгкая атлетыка).**

*ПАДАРУНКІ ДА СВЯТА*



**У мінскім ГУМе ідзе гандаль ёлачнымі цацкамі, бянгальскімі агнямі, маскамі -- усім, што стварае святочнасць і прыгажосць самага любімага ўсімі свята -- Новага года.**

**НА ЗДЫМКУ: прадавец Ларыса САВЕНКА прапануе мяккія цацкі -- любімы падарунак да свята для дзятвы.**

*ЗВАРОТ У ПАРЛАМЕНТ*

## АГРАРНІКІ НАПАМІНАЮЦЬ

**Беларускі савет калгасаў у сувязі з катастрафічным зніжэннем узроўню сельскагаспадарчай вытворчасці і жыцця сялян звярнуўся да Вярхоўнага Савета 13-га склікання з прапановай разгледзець і прыняць меры па выпраўленню сітуацыі ў вёсцы.**

**Аграрнікі лічаць, што па віне цяперашняга ўрада запускаюцца землі і выразаецца жывёла, разбураецца матэрыяльна-тэхнічная база вёскі, таму ён павінен пайсці ў адстаўку. Разам з тым савет кал[illegible]гасаў стварыў камісію для перагавораў з урада[illegible] У выпадку, калі сустрэча не адбудзецца або не дасць вынікаў, аграрнікі маюць намер правесці ў лютым усебеларускую маніфестацыю з пікетаваннем урадавых і прэзідэнцкіх устаноў.**

*КАНТРАБАНДА*

## МАТРАЦ З ДОЛАРАМІ

**Супрацоўнікі мытнага паста "Гомель--Пасажырскі" пры даглядзе цягніка Гродна-Днепрапятроўск знайшлі незвычайны матрац. Калі з яго дасталі 10 тысяч долараў ЗША, пасажыр-уладальнік матраца адмовіўся прызнаць сябе гаспадаром такога багацця. Работнікі мытні, у сваю чаргу, настойваць не сталі і адпусцілі хлопца дамоў, канфіскаваўшы грошы ў даход дзяржавы.**

*НЕЗВЫЧАЙНАЯ ШКОЛА*



**Другі год у Магілёве дзейнічае школа з метадам навучання, які адрозніваецца ад існуючага. На ўроках тут няма франтальнай падачы матэрыялу, разлік робіцца на індывідуальнае ўспрыняцце навучэнцаў. Павышэнню іх інтэлекту садзейнічае ўвядзенне такіх прадметаў, як дзіцячая філасофія, сур'ёзнае вывучэнне замежных моў. Настаўнік ніколі не павышае голас, а вучань, натуральна, не зведвае адмоўных эмоцый. Адсутнасць стрэсавых сітуацый у працэсе навучання прыносіць вялікую карысць як дзецям, так і дарослым.**

**НА ЗДЫМКУ: урок дзіцячай філасофіі праводзіць настаўніца пачатковых класаў Таццяна МОСАР.**

## СВЯТА БОЖАГА НАРАДЖЭННЯ



(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

**По ўсёй каталіцкай Беларусі -- зрэшты, ці толькі каталіцкай -- у гэтую святую ноч, як і летась, як і сто гадоў назад, зляталі з вуснаў, гучалі ў сэрцах нашых словы: "Хрыстос нарадзіўся!"**

**У касцёлах паўнютка было людзей. І што цешыць -- многа маладых. А хто не мог прыйсці ў храм, да таго з словам Божым прыйшоў у дом Кардынал Казімір Свёнтэк, які звярнуўся да сваёй паствы з пасланнем з нагоды Раства Хрыстова. І пасланне архіпастыра католікаў Беларусі, і набажэнства ў касцёле Св. Роха ў Мінску, якое транслявалася па тэлебачанні, гучалі на роднай мове вернікаў -- беларускай. І гэта было прыгожа! І гэта ўсяляла ў сэрцы надзею на лепшую прышласць...**

**На здымках, зробленых нашым фотакарэспандэнтам Віктарам СТАВЕРАМ у Чырвоным касцёле святых Сымона і Алены, некалькі імгненняў і твараў у ноч Божага Нараджэння.**





# БЕЖАНЦЫ НА БЕЛАРУСІ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Нас вельмі непакоіць тое, што ў Беларусі існуе закон аб бежанцах, але адсутнічае працэдура яго рэалізацыі. Нядаўна я накіраваў пісьмо ў Кабінет Міністраў з просьбай звярнуць увагу на праблемы, што існуюць вакол бежанцаў, указаўшы, што Беларусь у гэтым пытанні адстае ад Расіі і Украіны, Польшчы і Літвы. Закон аб бежанцах не ўведзены ў дзеянне, сродкі на яго рэалізацыю не выдзелены, і тая міграцыйная служба, пра якую гаворыцца ў законе, у колькасці ўсяго пяці чалавек існуе толькі на паперы. Таму, хто хацеў бы заявіць аб сваім жаданні атрымаць статус бежанца, няма куды звяртацца. Гэтая сітуацыя адбіваецца і на іншых дзяржавах, бо пры рэжыме адкрытых межаў яны не могуць сфармуляваць уласную палітыку ў адносінах да бежанцаў.

*-- Як збоку ўспрымаецца становішча мігрантаў і бежанцаў, у якім яны апынуліся ў Беларусі?*

-- Да пачатку перабудовы Упраўленне Вярхоўнага камісарыята па справах бежанцаў не мела ніводнага прадстаўніцтва на тэрыторыі СССР. Сёння патокі мігрантаў, нелегалаў, бежанцаў унутры краіны набылі такія аб'ёмы, што ўлады ніводнай з рэспублік былога СССР не могуць самастойна справіцца з імі. Беларусь даволі пасіўна ставіцца да гэтай працы.

Масы іншаземцаў з так званага далёкага замежжа падышлі да межаў былога СССР, прычым, сёння паўтара мільёна чалавек ужо знаходзяцца на тэрыторыі Расіі. Колькі з іх у Беларусі -- цяжка сказаць, асабліва пасля таго, як знікла граніца паміж гэтымі краінамі. Нельга забываць і аб этнічных беларусах. Многія з іх знаходзяцца ў вельмі цяжкім становішчы. Прыехаў, напрыклад, беларус на радзіму з гарачай кропкі, дзе быў прапісаны і доўга жыў. У гэтым выпадку некаторыя дамствы патрабуюць даказаць, што там ён падвяргаўся праследаванням. З нашага пункту гледжання, сітуацыя ў гэтых рэгіёнах настолькі напружаная, што любога, хто адтуль прыехаў, можна лічыць бежанцам.

*-- Хто ў першую чаргу з'яўляецца аб'ектам увагі вашага прадстаўніцтва?*

-- Афганцы і эфіопы, якія вучыліся тут у цывільных ці ваенных навучальных установах. З-за таго, што ў іх дома змянілася палітычнае становішча, яны не могуць вярнуцца на радзіму, вымушаны рэгістравацца кожныя тры месяцы і фактычна не маюць права легальна працаўладкавацца. А гэта значыць, што сумленных даходаў у іх няма і быць не можа. Да своеасаблівай групы рызыкі можна аднесці маладых афганцаў, якія прыехалі сюды яшчэ дзецьмі. Гэта хлопцы, якія знаходзяцца ў тым узросце, калі ўзнікае неабходнасць самасцвярдзіцца, а зрабіць гэта ў адпаведнасці з законам няпроста... Сур'ёзныя праблемы ўзнікаюць у сем'ях бежанцаў з Афганістана, якія прыехалі сюды некалькі гадоў таму і з-за адсутнасці закона не атрымалі адпаведнага статуса. Яны жывуць у вельмі цяжкіх умовах, міліцыя адбірае ў іх пашпарты, патрабуючы ўплаты штрафу. Людзі з апошняга плацяць штраф, аднак няма ніякай гарантыі, што гэты ж міліцыянер не прыйдзе па грошы зноў. Мы падтрымліваем гэтых бежанцаў.

*-- Што ў сітуацыі з бежанцамі непакоіць вас сёння больш за ўсё?*

-- Хаця Беларусь не падпісала Канвенцыю аб бежанцах 1951 года і яе дадатковы пратакол ад 1967 года, гэтыя законы ўрад Беларусі ўсё ж такі абавязаны выконваць. Гаворка ідзе аб міжнародным дакуменце пэўнага ўзроўню, які рэгламентуе пытанні аб тым, хто можа лічыцца бежанцам, хто мае права на атрыманне адпаведнага статуса. Беларусь гэтую канвенцыю ігнаруе, і я нічым не магу дапамагчы людзям, якія звяртаюцца да мяне. Такое становішча проста не можа захоўвацца далей. Мы таксама зведваем цяжкасці: з аднаго боку, гатовы дапамагаць і садзейнічаць уладам -- выдзеліць тэхніку, вучыць кадры; з другога боку, цяжка вучыць кадры, якіх няма, выдзяляць камп'ютэры для службаў, якія не існуюць. Улады павінны хацця б праявіць жаданне скарыстаць тую дапамогу, што ім прапануюць. Нават Расійская Федэрацыя, у якой больш і сродкаў, і сіл, заяўляе, што са сваімі бежанцамі яна адна не справіцца. Такія праблемы вырашаюцца толькі агульна.

*-- Што можа здарыцца, калі і далей улады будуць бяздзейнічаць?*

-- Далейшае прамаруджванне, перш за ўсё, адбіваецца на лёсах людзей, якія не могуць атрымаць статуса бежанца. Акрамя таго, гэта вельмі дрэнна адбіваецца на рэпутацыі Беларусі ў свеце.

*-- Вашы ўражанні ад рэспублікі?*

-- Я вельмі ўзрадаваўся, калі даведаўся, што буду працаваць у Беларусі. У мяне стварылася ўражанне, што Мінск -- гэта спакойны, ціхі і сумны горад. У нейкай ступені гэта ўражанне спраўдзілася.

*-- І ў адносінах суму таксама?*

-- Калі мець на ўвазе архітэктуру, то так. З другога боку, тут багатае культурнае жыццё. У вас ёсць опера і балет, свой цырк. Праўда, мяне здзівіла, што паўсюль патрабуюць пінжак і гальштук. Вельмі лёгка было знайсці добрую кватэру, але я дагэтуль не магу знайсці памяшканне пад офіс. Як правіла, такія памяшканні для нашай службы ва ўсім свеце ўрадамі выдзяляюцца бясплатна. Тут жа я атрымаў у Міністэрстве замежных спраў адмоўны адказ... Цэны на памяшканні ў Мінску перавышаюць цэны, напрыклад, Стакгольма...

*-- Ну што ж, прыемна, што хаця б у гэтым плане мы выйшлі на сусветны ўзровень. Дзякуй за гутарку.*

Вераніка ЧАРКАСАВА.

## ПІСЬМЫ ЗБЛІЗКУ

# АДРАДЖЭННЕ ДУШЫ

Яшчэ два гады назад вельмі шмат гаварылася пра адраджэнне. Само слова пісалася з вялікай літары. Але найперш, калі гаворка ішла пра адраджэнне, меўся на ўвазе зварот да народных звычаяў, традыцый, фальклору, таксама апратанне гісторыі і культуры ад ідэалагічнага шалупіння таталітарнай сістэмы. І вельмі рэдка можна было пачуць пра духоўнае адраджэнне.

Адраджэнне народа павінна пачынацца менавіта з духоўнага адраджэння. Самае галоўнае ў гэтым працэсе -- адраджэнне душы. Кожнай асобнай душы. А гэтае адраджэнне можа даць чалавеку толькі Бог. Толькі Ён можа быць крыніцай абнаўлення і адраджэння. Бог праз дзеянне Духа Святога ачышчае чалавечую душу ад усякага бруду: злосці, нянавісці, падману, зайздрасці, прагавітасці, распуснасці, раздражнёнасці і многіх іншых грахоў. Чалавек аніяк не хоча зразумець, што коранем і першакрыніцай усіх яго праблем, і не толькі яго, але і ўсяе цывілізацыі (сацыяльных, палітычных, эканамічных і іншых) ёсць грэх. Чалавечая прырода з'яўляецца носьбітам грэху. І шлях да вырашэння ўсіх праблем ідзе праз ачышчэнне прыроды чалавека ад грэху, праз пакаянне. Праз веру ў Ісуса Хрыста, праз прыняцце Яго ахвяры на крыжы за ўсіх грэшнікаў чалавек можа прыняць ад Бога сілу і ласку ачышчэння і можа напоўніцца Духам Святым. Чалавек сам сябе выратаваць не можа; ні наведваннем царквы, ні выкананнем усіх рытуалаў чалавек не знойдзе збаўлення. Выратаванне чалавеку дае толькі Бог. І для гэтага патрэбна толькі адна ўмова -- шчырая вера.

Такім чынам, на першы план выходзяць духоўныя праблемы грамадства. Структуру прыярытэтаў грамадства льга паказаць як піраміду, у верхняй частцы якой павінна знаходзіцца духоўная сфера (ці рэлігійная, калі хочаце), ніжэй -- культурная, далей -- сацыяльна-палітычная, і на самым нізе -- эканамічная сфера. Але ў нас, выхаваных на матэрыялізме, усё перавернута з ног на галаву, а самае галоўнае -- адсутнічае. Таму мы і маем тое, што маем.

Не лішне будзе ўспомніць, што ўсе краіны, якія мы зараз называем "цывілізаванымі", прайшлі перыяд магутнага духоўна-рэлігійнага ўздыму. Чаму ў нас ніхто не звяртае ўвагі на сувязь паміж двума цікавымі працэсамі, што адбыліся ў Еўропе некалькі стагоддзяў назад: Рэфармацыяй і прамысловай рэвалюцыяй (менавіта тады былі закладзены першыя асновы сучаснай рынкавай эканомікі -- былі створаны першыя біржы, банкі, механізаваныя вытворчасці)? Хаця на Захадзе пра гэта пісалі такія сур'ёзныя даследчыкі, як Макс Вебер (ён выкарыстоўваў метады статыстычнай навукі ў сваіх даследаваннях).

Беларусь стаіць на парозе рэлігійнага ўздыму. І гэтага не трэба баяцца. Растуць цэрквы, ствараюцца новыя, шмат людзей прыходзіць да Бога. Але гэта выяўляе, што ёсць для веруючых шмат праблем. Не хапае падрыхтаваных памяшканняў для правядзення набажэнстваў. Вялікія цяжкасці для духоўнай адукацыі. Вельмі мала радыё- і тэлепраграм для веруючых. Наадварот, эфір запоўнены рознай брыдотай, там пануюць забойствы, гвалт, распуста. А каб стварыць перадачу на радыё (не кажучы ўжо пра тэлебачанне), хрысціяне павінны яшчэ заплаціць свае грошы, як быццам яны будуць перадаваць нейкую рэкламу ці камерцыйныя аб'явы. Добра было б, каб Прэзідэнт прыслухаўся да патрэб веруючых і даў загад кіраўніцтву тэлерадыёстварыць спецыяльныя рэдакцыі рэлігійных праграм як на радыё, так і на тэлебачанні. Веруючыя плацяць падаткі, за кошт якіх фінансуецца радыё і тэлебачанне, і яны не хочуць, каб за іх грошы паказвалі розную парнаграфію і бязбожныя перадачы. І яшчэ адзін важны момант: калі кіраўніцтву хопіць дзяржаўнай мудрасці на стварэнне гэткіх рэдакцый, то трэба ўлічыць, што Беларусь -- краіна спрадвеку шматканфесійная, што акрамя праваслаўных і католікаў у нас ёсць яшчэ і уніяты, і евангелісты, і баптысты, і пяцідзесятнікі.

Напрыканцы хачу сказаць, што шлях адраджэння, які апісаны ў гэтым артыкуле, -- не плод фантазіі аўтара і не вынік яго філасофскіх пошукаў. Гэта рэальнае жыццё. Па гэтым шляху пайшла маленькая еўрапейская краіна -- Албанія. Там знятыя ўсе перашкоды, і вельмі шмат людзей прыходзіць да Бога. Раней Албанія была самай адсталай у эканамічным плане еўрапейскай краінай. Зараз тэмпы яе эканамічнага росту -- 10 працэнтаў за год (хаця дзіўна ўжо тое, што ў іх няма падзення вытворчасці, як у нас). Гэта фантастычныя вынікі для ўсходнееўрапейскіх краін. Ды нават і развітыя прамысловыя дзяржавы маюць тэмпы росту ў 4--5 разоў меншыя. А вазьміце Кітай з яго эканамічным ростам. Цяпер там болей, як 50 мільёнаў хрысціян. А яшчэ некалькі год назад іх кідалі ў турмы.

Можна напісаць тысячы эканамічных і палітычных праграм, але рэальна выйсці з крызісу гэта не дапаможа. Не трэба глабальных праектаў. Трэба пачынаць з малога. Хай кожны спачатку выведзе з крызісу сваю душу. Адраджэнне душы -- вось што галоўнае.

Андрусь ДЫЛЮК.



## ХТО ВЕДАЕ МІХАЛА ЗАПОЛЬСКАГА?

# ПУНКЦІР ЖЫЦЦЁВАГА ШЛЯХУ

Менавіта пункцір можам мы пакуль што адзначыць. Таму адразу і просьба да ўсіх, хто можа ўдакладніць і дапоўніць біяграфію, -- зрабіце гэта! А яшчэ звяртаем увагу навуковых і архіўных устаноў на тое, што ад цяперашняй захавальніцы М. Шуплевай-Запольскай павінен быў бы перайсці ў не менш надзейныя рукі асабісты архіў героя нашай публікацыі.

Хто ж ён такі? Нагадаем, што ўдалося высветліць.

Запольскі Міхал Мікалаевіч (падпісваўся як сапраўдным імем і прозвішчам, так і крыптанімамі: М.З., M.Z.; паводле меркавання А. Ліса, выкарыстоўваў псеўданімы Каледзіч і Захар Вехаць) нарадзіўся 21 студзеня 1893 года каля Мінска. Каардынаты месца нараджэння прыблізна вызначаюцца ў "Матчыных апавяданнях" -- цыкл твораў аўтабіяграфічнага характару -- "Сянніца каля Менску", "Калядзічы -- адкуль і наш бацька", Шчытамірычы.

І прыведзеная дэталь, і некаторыя апасродкаваныя звесткі вядуць да высновы, што бацька -- вясковец карэнны, але служыў на чыгунцы, гадаваў шасцёра дзяцей.

Міхал атрымаў, відаць, адукацыю. Прынамсі, даволі рана выявіў літаратурныя здольнасці і пачаў выступаць у друку: шэраг твораў на рускай мове датаваны пачаткам 1910-х гадоў. Ёсць падставы лічыць, што служыў у царскім войску, магчыма, быў мабілізаваны ў час першай сусветнай вайны і пасля адпаведнай падрыхтоўкі атрымаў афіцэрскі чын. Прыкладна ў 1914--1915 гадах завёў сям'ю, ажаніўшыся з Марыяй Хаменка. Цяжка вызначыць, якіх палітычных поглядаў трымаўся, а захапленне літаратурнай працай пацверджана немалой колькасцю публікацый таго часу.

Напрыканцы 1919 ці на самым пачатку 1920 года Міхал Запольскі разам з жонкай і дачкой пакінуў радзіму. Відаць, не без палітычных матываў, паспешліва -- пра што сведчыць факт нараджэння на параходзе (31.01.1920) сына Барыса. Адплывалі па моры з Адэсы, куды кіравалі -- невядома. А сталы прытулак знайшлі ў Каралеўстве сербаў, харватаў і славенцаў. Паводле неправераных звестак, была там калонія і свая арганізацыя беларусаў. Прынамсі, як паведамляюць блізкія і знаёмыя, сям'я Запольскіх там сябравала з Гаўрылам Царыкам, асобай, прыкметнай яшчэ з нашаніўскіх часоў, а таксама ўплывовай у эмігранцкім асяроддзі Югаславіі. Вядома, што Г. Царык займаў нейкую пасаду ва Управе чыгункі Каралеўства СХС. Мяркуючы па ўсім, ён дапамог знайсці працу там і М. Запольскаму, які служыў таксама на Бялградскай, Панчаўскай, потым зноў Бялградскай чыгуначных станцыях.

Тагачасныя настроі эмігранта Запольскага шматстайна адлюстраваліся ў ягоных вершах з сімптаматычнымі загалоўкамі: "На чужыне", "Хто ж другі заплача...", "Сэрца б'ецца ад слёз...". Прыгняталі многія акалічнасці. Памерла дачка. Няпроста было вучыць і гадаваць сына, а там ужо нарадзіўся другі сын, Аляксандр. Маючы працу, канцы з канцамі зводзіць удавалася. Ды не болей. А пра сябе нагадвалі ўвесь час духоўныя патрэбы, цяга да пісьменства. І Міхал Запольскі стараўся, як мог, выконваць тое, што лічыў сваім пакліканнем. Ён падтрымліваў сувязі з культурна-асветнымі суполкамі Заходняй Беларусі, пісаў у газеты і часопісы, якія там выдаваліся. Ягоныя публікацыі можна сустрэць на старонках такіх выданняў, як "Наша будучыня", "Наша справа", "Наш голас", "Новае жыццё", "Праваслаўны беларус", "Сын беларуса", "Сялянская праўда" і інш.

Гэта вершы, нататкі, апавяданні. І самы прыкметны матыў іх -- настальгія, боль ад разрыву повязяў з Бацькаўшчынай:

**Сэрца б'ецца ад слёз,**
**Сэрца рвецца дамоў...**
**Толькі родных бяроз**
**Не пачую я зноў.**

*(Верш "Сэрца б'ецца ад слёз").*

"Задумаўся... пабеглі навыперадкі думкі пра родны край. Пра вёску, пра долю Беларусі.

Эх, каб моц! каб грошы! Цяпер голас грошаў ня толькі мае ўвагу, але ў кожным здарэнні мае перавагу,

**(Заканчэнне на 7-й стар.).**

**НЕПРЫКМЕТНАЯ І СТРАШНАЯ ВАЙНА**

# РЭКВІЕМ КАРЭЛЬСКІХ БАЛОТ

Таверна. Адчынены дзверы -- чырвонаармейцы з вінтоўкамі ўрываюцца ўнутр. За дубовымі сталамі снедаюць фінскія салдаты. Нямая сцэна. Але вось унтэр-афіцэр жэстамі прапаноўвае аслупянеўшым чырвонаармейцам... далучыцца да трапезы. Ротны, зусім адурэўшы, сунуў у кабуру "ТТ" і, выцягнуўшы размоўнік, спрабуе растлумачыць фінам, каб тыя здавалі зброю...

З падобнай прагулкі вайна пачалася далёка не ўсюды. У гэты дзень на Карэльскім перашыйку было не да смеху. Адна са стралковых дывізій 7-й арміі, у кароткім баі збіўшы прыгранічныя часці фінаў, к канцу дня выйшла на падступы да горада Тэрыюкі (цяпер Зяленагорск) і завязала тут цяжкі бой.

Тэрыюкі гарэў. Уступіўшы ў горад, байцы ўбачылі жудасную карціну хаосу і разбурэння. Тое, што ацалела пасля штурмавога агню артылерыі, пры адступленні было падпалена фінскімі факельнымі камандамі. Мініравана было практычна ўсё, нават руіны.

4 снежня хельсінкскі ўрад Рыста Руці спрабаваў праз пасрэдніцтва Стакгольма звярнуцца да Савецкага Саюза з прапановай неадкладна спыніць ваенныя дзеянні і сесці за стол перагавораў. Перададзены праз савецкага паўпрэда ў Швецыі А.Калантай адказ ашаламіў Руці. Аказвалася, што СССР не толькі не знаходзіцца ў стане вайны з Фінляндыяй, а, наадварот, заключыўшы з ёю ваенны саюз, дапамагае фінскаму народу ў яго барацьбе за вызваленне Фінляндыі ад шайкі хельсінкскіх белабандытаў.

Гэты зігзаг сталінскай дыпламатыі даў свой плён. Менавіта тады фінскія салдаты на фронце атрымалі загад-закліnanне стаяць насмерць. Менавіта з гэтага дня зводкі з фронту ўсё часцей пачынаюць вызначаць супраціўленне фінскай арміі як "шалёнае", "адчайнае", "лютае"...

Між тым ваенны саюз на тое і саюз, што прадугледжвае ўдзел у ім хаця б двух саюзнікаў. І гэты саюзнік, якога не хапала, быў створаны, што называецца, з паветра. У Ленінградзе пачаў фарміравацца Першы Фінляндскі корпус, ядро якога складалі інгерманландцы -- фіны, ураджэнцы Карэліі і поўначы Ленінградскай вобласці. Апранаць салдат "незалежнай" арміі ў чырвонаармейскую форму здалося пераборам нават Сталіну. Фінскай жа ў такой колькасці проста не было. Што рабіць? Рашэнне знайшлося нестандартнае: камандуючаму Беларускай Асобай акругай было дадзена ўказанне з захопленых у верасні 1939 года пад Беластокам пакгаўзаў у Ленінград самалётамі тэрмінова даставіць неабходную колькасць польскай армейскай формы.

Славутыя польскія канфедэраткі заменены шапкамі, зняты шаўроны з белакрылым арлом -- і вось ужо фінскія валанцёры з песнямі маршыруюць па Ленінграду ад Дварцовай плошчы да Фінляндскага вакзала. Корпус не кідалі ў бой: ён прызначаўся для ўрачыстага ўступлення рэвалюцыйных фінскіх войск у Хельсінкі. Гэтага не здарылася. Корпус, так і не панюхаўшы пораху за ўсю вайну, спыніў сваё існаванне разам з урадам Ота Куусінена, які заявіў аб сваім самароспуску за некалькі дзён да заканчэння ваенных дзеянняў.

8 снежня 1939 года пастаянны прадстаўнік Фінляндыі ў Лізе Нацый зрабіў надзвычайную заяву адносна таго, што яго краіна падверглася несправакаванай агрэсіі з боку СССР. "Савецкі Саюз, -- заявіў прадстаўнік, -- парушыўшы Дагавор аб ненападзенні і мірным уладжванні канфліктаў, атакаваў Фінляндыю на ўсім працягу мяжы. Акрамя атакі прыгранічных раёнаў, ён падверг бамбардзіроўцы з паветра фінскія гарады, у выніку чаго маюцца ахвяры сярод мірнага насельніцтва..."

У прызначаны для заслухоўвання бакоў дзень савецкі прадстаўнік на пасяджэнне Лігі Нацый не з'явіўся. Вынік вядомы. Фінляндыі быў вынесены статус віктым агрэсара, а СССР, як дзяржава, аб'яўленая агрэсарам, большасцю галасоў выключалася з членаў Лігі.

Цяпер Савецкаму Саюзу рукі былі поўнасцю развязаны. У сувязі з тым, што справы на фронце складваліся крайне няўдала, пачалася перакідка войск з унутраных акруг. Асноўнай акругай была выбрана Беларуская Асобая. Гэта тлумачылася перш за ўсё тым, што яна межавала з Ленінградскай ваеннай акругай і да таго ж лічылася адной з самых баяздольных у Чырвонай Арміі.

Першыя эшалоны з асабовым складам і баявой тэхнікай выйшлі з Мінска 13 снежня 1939 года. У гэты дзень 100-я стралковая дывізія, якая дыслацыравалася ў ваенным гарадку Уручча, была паднята па трывозе, пагружана ў эшалоны і тайна адпраўлена ў Ленінград. Асабовы склад дывізіі мог толькі здагадвацца, куды едзе, па назвах населеных пунктаў: Віцебск, Востраў, Пскоў, Луга. 24 снежня дывізія выйшла на пярэдні край лініі фронту ў раёне станцыі Тэрыюкі і вёсак Піткала і Піхкала, дзе і прыняла свой першы бой.

Падрабязнасці падзей той "непрыкметнай" вайны мне дапамог узнавіць ветэран 100-й стралковай дывізіі Улас Лявонцьевіч Коркаў, які жыве ў Мінску. Ён успамінае:

"Фінская абарона мацнела, наша наступленне выдыхалася. На момант прыбыцця на перадавую ў нашай дывізіі было 14 тысяч чалавек. Праз некалькі тыдняў баёў яна страціла да 70 працэнтаў асабовага складу забітымі, раненымі і абмарожанымі. Ударылі траскучыя маразы. Ва ўмовах наступлення яны аказаліся лютым ворагам. Мерзла ўсё: ператваралася ў ледзяную каростў артылерыйская змазка, бохан хлеба рабіўся каменем, рукі прыліпалі да металу. Пра нас і гаварыць не даводзілася: шынель ад такога марозу -- не такая ўжо і ахова... Былі, праўда, і кажухі, але мала, у асноўным у артылерыстаў. Ды і нязручныя яны былі -- у кажуху, нібы куль, -- няўклюдны, непаваротлівы.

Іншая справа фіны! Іх брыгады і батальёны былі падрыхтаваны да палярнай вайны выдатна. Шарсцяная бялізна, світэры, тоўстыя ватныя штаны, боты на футры, даўгавухія аўчынныя шапкі -- усё цёплае, лёгкае, зручнае. Кожны салдат быў забяспечаны белым маскхалатам, лыжамі са славутай карэльскай бярозы. Дарэчы, на лыжы ставілі літаральна ўсё: абозныя павозкі, кулямёты, лёгкія гарматы, санітарныя фургоны. Усё гэта ва ўмовах баёў у заснежаных паўночных лясах дазваляла бясшумна і вельмі хутка манеўраваць значнымі сіламі..."

Можна яшчэ дадаць, што значна горшыя былі справы з цяжкім узбраеннем: пры, увогуле, нядрэннай артылерыі адчуваўся недахоп танкаў і баявых самалётаў. Манергейм меў некалькі дзесяткаў старых французскіх танкаў "Рэно" і нязначную колькасць самалётаў, у асноўным біпланаў старых англійскіх, французскіх і італьянскіх марак. Ды яшчэ Гітлер, яўна для дэманстрацыі сваіх "сімпатый" да Масквы, паднёс сюрпрыз учарашняму саюзніку: трыццаць новенькіх італьянскіх знішчальнікаў "Фіят", адпраўленых фінам па ўказанню Мусаліні, былі інтэрніраваны на тэрыторыі Германіі, так і не трапіўшы да адрасата.

К канцу снежня наша наступленне канчаткова спынілася. Лінія фронту на Карэльскім перашыйку практычна стабілізавалася за 50--70 кіламетраў на паўночны захад ад старой мяжы.

З Масквы патрабавалі абавязковага руху наперад: за наступленнем Чырвонай Арміі пільна сачыла ўся Еўропа. І наступаўшыя дывізіі рабілі ўсё, што маглі, праяўляючы салдацкую мужнасць і ратную доблесць.

"Адданасць Радзіме, воінскаму абавязку паказаў намеснік камандзіра стралковага палка 100-й стралковай дывізіі маёр І.П..Курылін, -- успамінае У.Коркаў. -- У баі пры прарыве лініі Манергейма адзін са стралковых палкоў дывізіі страціў камандзіра і, несучы вялікія страты ад моцнага перакрыжаванага агню з дотаў праціўніка, залёг у снезе. Маёр Курылін І.П., нягледзячы на тое, што ён артылерыст, узяў на сябе камандаванне палком. Ён падняў у атаку ўвесь полк і, натхняючы сваім прыкладам, рынуўся першым у фінскія акопы. Праціўнік быў поўнасцю знішчаны. Па просьбе асабовага складу ён застаўся часова камандаваць гэтым палком. Наш зямляк маёр І.Курылін у баі пад горадам Выбаргам загінуў смерцю героя".

Трагедыя нашай вайсковай групоўкі заключалася ў тым, што лёс дзесяткаў тысяч байцоў быў аддадзены ў рукі такіх "стратэгаў", як Цімашэнка, Мехліс, Варашылаў, Жданаў (былы член Ваеннага савета). Іх бяздарнасць, жорсткасць, выдаваемая за цвёрдасць, крайняе грэбаванне праціўнікам аплачвалася крывёю тысяч салдат і камандзіраў. Асабліва многа было раненых і абмарожаных. Адбілася пасрэдная падрыхтаванасць санітарнай і аўтамабільных служб. Здаралася часта (як гэта адбылося з дзесяткамі байцоў 61-й стралковай дывізіі Беларускай Асобай ваеннай акругі), што з-за немагчымасці хутка вывезці раненых у тыл, яны замярзалі да смерці ці паміралі ад страты крыві. Калі фіны без асобых праблем вывозілі сваіх раненых на хуткіх санях, нашы маламагутныя санітарныя "ЗіСы" натужна буксавалі ў глыбокім снезе.

Ігар **КУЗНЯЦОЎ.**

**Працяг.**
**Пачатак у № № 50 — 52.**






Сяргей ПЯСЕЦКІ

# "КАХАНАК ВЯЛІКАЙ МЯДЗВЕДЗІЦЫ"

-- Фэля.

-- Правільна! Ну, і што ён?..

-- Застрэлілі яго на пагранiччы.

-- Хто застрэліў?

-- Невядома. Жывіца прызнаўся, што вёз яго з Рубяжэвіч да Ракава і непадалёку ад Волмы нехта выстраліў у іх зь лесу і трапіў у Вэбліна.

Пачынаю ўважліва прыслухоўвацца, хоць раблю выгляд, што іх размова мяне зусім не цікавіць.

-- Магчыма, мелі нейкія рахункі?

-- Д'яблы іх ведаюць!.. Хоць Сашку Вэбліна ўсе і любілі, але мог мець і ворагаў... Здаецца, Жывіца штосьць скруціў з тым падстрэлам... Ён учора сабе ў лоб пальнуў.

-- Хто? Жывіца?

-- Так.

-- Што гэта ён?..

-- Па п'янцы нешта яму ў галаву цюкнула... Учора хавалі Вэбліна, а потым яго сястра зрабіла хаўтуры. Ну, скарыстаў з нагоды: напіўся і пайшоў увечары дахаты, а на Рынку пальнуў сабе з парабела ў рот.

Пачуўшы гэта, проста здранцьвеў ад уражаньня.

-- А можа, ён памачыў пальцы ў тым... стрэле і пабаяўся адказнасьці? Што?

-- Усё можа быць... Справа цёмная. Сам д'ябал з тым не разьбярэцца. Гэты таксама за падстрэл арыштаваны, -- паліцыянт кіўнуў галавой у мой бок.

Зь іх папярэдняй размовы я ведаў, што другі паліцыянт толькі сёньня вярнуўся з водпуску і ня ў курсе мястэчковых навін. Таму зараз ён трасе маю руку і пытае:

-- Э... пан!.. За што пан яго падстрэліў?

-- Каго?

-- Ну, гэтага...

-- Алінчука, -- дадае другі паліцыянт.

-- За тое, што ён дзярмо!

Паліцыянты шматзначна пераміргваюцца: добрая птушачка! Пасьля зноў закурылі папяросы.

"Дык Жывіцы няма! Застрэліўся!" -- усьцяж круціцца ў маёй галаве.

Неспадзявана ахоплівае нясьцерпнае жаданьне даведацца пра ўсё. Не магу паверыць у тое, што Жывіца застрэліўся. Гэта ня месьціцца ў маёй галаве. Тут нешта ня так... Можа, ёсьць яшчэ адзін Жывіца?

У адну хвіліну прыходзіць цьвёрдае рашэньне: мушу ўцячы і пайсьці туды! Павінен!..

Зараз пацiху ўважліва назіраю за паліцыянтамі. Яны ўпэўнены, што я не ўцяку. Сядзяць нядбайна. Кураць папяросы. Карабіны заціснулі паміж нагамі.

Выскачыць з саняў набок не пасьпею. Схопяць мяне. А што, калі адштурхнуцца нагамі ад днішча саняў і адкінуцца назад?.. Такім чынам можна лёгка вылецець -- перш чым пасьпеюць працягнуць рукі. Толькі б не зваліцца на галаву...

Пакрыёма ўважліва аглядаю мясцовасьць. На выбоінах сані так моцна падскокваюць, што зь іх лёгка можна вываліцца. Ногі паліцыянтаў засунуты пад сена і закручаны шынялямі. Перш чым здолеюць падняцца і выскачыць з санак, я ўжо пасьпею ўстаць і пачну ўцякаць. Апрануты я лёгка, таму змагу бегчы вельмі хутка і, калі не патрапяць першымі кулямі, -- лёгка ўцяку ад іх.

-- Далёка да Івянца? -- пытаецца адзін з паліцыянтаў у сябра.

-- Тры кіламетры.

Гэта падсьцёбвае мяне. Шукаю вачыма прыдатную мясьціну і чакаю адпаведнага моманту. Падсоўваю да сябе ступакі ног і цьвёрда ўпіраюся ў дно саняў. Выцягнуў далоні з рукавоў. Каб яшчэ не кайданы!

Паліцыянты зноў задымілі папяросы.

Сані памалу ўзьязджаюць на адхон гары. Пры сьвятле месяца бачу доўгі, стромісты нахіл спуску, па якім уніз бяжыць дарога. Зьлева заўважаю доўгую паласу прыдарожных хмызьнякоў, а за імі адкрытае поле.

Кідаю апошні позірк направа, налева: на ахову і мясцовасьць. Сані хутка ляцяць з гары ўніз. Імпэт руху адкідае нас на нізкія парэнчы. Тады я раблю целам моцны кідок назад і адліхаюся нагамі ад днішча саняў.

Узьлятаю ў паветра і падаю на дарогу. Ускочыў на ногі і несуся ўгару па дарозе, па якой хвіліну назад імчалі ўніз сані.

— Трымай каня! Тры-ымай каня-я-я!

Сані яшчэ ляцяць уніз.

-- Трр! -- крычыць фурман.

Бягу далей па дарозе ўгару. Зноў азіраюся. Здалёк бачу паліцыянта, які бяжыць па дарозе. Спыніўся. Цэліцца. Я хутка адскокваю ў бок кустоў. Гучыць стрэл. Вылятаю на поле і зноў бягу каля кустоў угару.

Зноў гучыць стрэл. Потым адразу некалькі адзін за другім. Страляюць без цэлі, ня бачачы мяне, бо і я іх ня бачу.

Узабраўся на самы верх гары, а пасьля лёгка і хутка зьбягаю ўніз. Не стаміўся ані, толькі ўзапрэў ад хуткіх рухаў. Некалькі разоў азіраюся. На засьнежанай белі дарогі і поля нікога няма.

Адбегся ўжо кіламетр ад верхавіны ўзгорка, калі ў сьвятле месяца ўбачыў сані, што ўзьязджалі на яе. Прыкмеціў недалёка лес. Панёсься туды. Перасек яго на другі бок... Хутка пакрочыў палямі. Зноў увайшоў у лес.. Няхай зараз дагоняць мяне!

Зноў лес і зноў поле. Азіраюся навокал. Пуста. У месяцовых промнях пераліваецца сьнежная бель палёў. Гляджу на зоркі: шукаю напрамак. Вялікая Мядзьведзіца паказвае мне дарогу на захад.

"Не, мая каханая, не... Мая дарога вядзе на ўсход... На захадзе для мяне няма месца!"

## Частка трэцяя

## ЗДАНІ ПАГРАНІЧЧА

**Не хадзі ж ты, мілы,**
**Не хадзі ж начамі**
**Па краю магілы**
**Зь сьмерцю за плячамі!**

*Зь песьні перамытнікаў.*

### 1

Зіма. Мароз. Заходзіць сонца. На небе расьсыпаюцца шматкаляровыя ўзорыстыя дываны. Яны мяняюцца кожную хвіліну. Сонца не шкадуе фарбаў. Яны багатыя, шчодрыя і адмысловыя.

Стаю без шапкі на вузкай, разьбітай санкамі дарозе. Робіцца холадна. Засьнежаным падворкам бягу да будынкаў, а потым уваходжу ў вялікую цёплую хату.

Набліжаецца сярэдзіна сьнежня. Ужо чацьвёрты тыдзень жыву на хутары Даўрыльчукоў, што ў трох кіламетрах ад граніцы, паміж Душкавам і Волмай. Да Ракава адсюль 11 кіламетраў. Схаваў мяне тут Лорд. Даўрыльчукі -- ягоныя далёкія сваякі.

Хутар ляжыць збоку ад людзей. Да бліжэйшай вёскі два кіламетры. Іншых хутароў паблізу няма. Мяліна надзейная. Магу жыць тут шмат гадоў, і ніхто ня знойдзе.

Непадалёку ад хутара ёсьць вялікі лес. Адным канцом ён падыходзіць да будынкаў, а другім -- бяжыць удалечыню, да граніцы, і цягнецца далёка на ўсход.

Даўрыльчукі -- гэта зьбяднелая да ўзроўню сялян шляхта. У іх 25 дзесяцін зямлі і крыху лесу. Жывуць заможна. Грошы не заціскаюць, а дбаюць пра добры харч і адзеньне. З навакольнымі сялянамі кантактаў не трымаюць. Жывуць адасоблена. Сям'я надзіва згодная. З-за драбязы ня сварацца. Яны спакойныя і вясёлыя. Праца ў іх спорыцца. У хаце дастатак.

Галаве сям'і -- Мацею Даўрыльчуку -- 60 гадоў, аднак выглядае на 50. Ён здаровы і дужы, у працы не саступае сынам. Змоладу шмат езьдзіў па сьвеце, таму досыць інтэлігентны, хоць ледзьве ўмее расьпісацца. У яго магутныя плечы і рукі, ходзіць зьлёгку нахіліўшыся ўперад. Вочы заўжды весела зьзяюць, а на вуснах замёрла лёгкая ўсьмешка. Ён любіць шмат апавядаць: кажа трапна і вобразна, праўда, хаатычна. Адчуваю, што пры апавяданьні яму перашкаджае празмер слоў і думак.

Жонцы Мацея -- Ганне -- 55 гадоў. Трымаецца проста. Вельмі працавітая. Ніколі ня бачыў яе без работы. Размаўляе мала і без жаданьня.

У Даўрыльчукоў трое сыноў і чатыры дачкі. Сыны як дубочкі, а дзяўчаткі як маладыя ядроныя ліпкі. Усе яны здаровыя, вясёлыя, дужыя, працавітыя. Ня ведаюць, што такое нярвознасьць. Заўсёды ўраўнаважаныя, спакойныя. Працуюць, шмат і ахвотна. Словы бацькоў для іх сьвятыя, і ня трэба зьвяртацца да прымусу, просьбаў, заахвочваньняў ці абяцанак.

Сям'я набожная і трымаецца асьвечаных традыцыямі звычаяў. Ня раз за ядой я ўглядаўся ў "годна" пасеўшых вакол стала сямейнікаў: усе сыны і дочкі падобныя між сабой. Іх мала адрозьніваюць гады, пол і ўзрост. Маюць здаровыя, сьвежыя твары; густыя цёмныя валасы, заплеценыя ў дзяўчат у тоўстыя косы; вочы сьветла-карыя, зь зьзяючым сіваватым адлівам бялкоў. Толькі тварыкі дзяўчат пазбаўлены тых рысаў напорлівасьці, якія назіраю ў хлопцаў. Калі сяджу за сталом і гляджу на Даўрыльчукоў, на памяць прыходзіць расійская народная забава "Ванька-встанька". Гэта чародка вытачаных з дрэва фігурак, велічынёй ад 10 да 2 сантыметраў. Тыя фігуркі пафарбаваны аднолькавымі колерамі і за выключэньнем памераў нічым не адрозьніваюцца між сабой. Звычайна іх сем. З круглымі тварамі, галовы і тулавы -- ног няма. Пахіленая набок кожная з фігурак адразу падымаецца, бо ўнізе закладзена волава. Адсюль назва "Ванька-встанька".

Старэйшаму сыну, Базылю, 30 гадоў, сярэдні -- Ігнат на два гады маладзейшы, а Сымону 25 гадоў. Базыль выглядае няўклюдным мядзьведзем -- вонкава цяжкаваты і марудны, аднак за гэтым хаваецца вялікі спрыт і магутныя фізічныя здольнасьці. Іг[illegible] больш зграбны, аднак [illegible]ама атлетычна збудаваны. З усіх братоў Сымон самы шчуплы, больш "далікатны". Магчыма, менавіта таму зьяўляецца пестунком маці.

Сясьцёр чацьвёра -- Кася, Алена, Магдзя і Н[illegible]я. Узрост ад 18 да 24 гадоў. [illegible] падобныя адна на другую і аднолькава апранутыя. Часам мне цяжка іх адрозьніць: усе тугія, рослыя, круглатварыя, вочы карыя, валасы цёмныя.

Калі Лорд вёў мяне да Даўрыльчукоў, сказаў, што тыя таксама займаюцца перамытніцтвам. На савецкім баку ў прыгранічны маюць сваякоў і зрэдку носяць туды тавар. Аднак за ўвесь час майго побыту ў Даўрыльчукоў яны не хадзілі за граніцу ані разу. Запытаўся пра гэта ў Сымона, зь якім мне лягчэй, чым з астатнімі, было размаўляць. Адказаў, што зараз не пара. Я трохі сумую без працы, але цярпліва чакаю яе... Калі мы разам з Лордам прыйшлі на хутар, сябра прывітаўся з усімі, а пасьля -- ужо па абедзе -- зьвярнуўся да Мацея, кажучы, што ёсьць да яго важная справа.

-- Ну, дзеці, -- прамовіў Мацей, -- схадзіце паглядзіце, ці ўсё ў нас у парадку!

Сыны і дочкі неўзабаве выйшлі з хаты.

-- Вось, дзядуля, -- сказаў Лорд, -- хачу вас папрасіць, каб вы прынялі на зіму гэтага хлопца. Ён мой друг. У мястэчку жыць ня можа, бо паліцыя хоча ўзяць яго на кручок... за кантрабанду... У вас яму было б найбольш надзейна.

-- Хай сабе застаецца. Толькі ў нас няма выгод. Жывём па-сялянску.

-- Ён да ўсяго "прызвычаены". Што вы ясьцё, тое і ён зьесьць. А як хлопцы пойдуць з таварам у дарогу, то спатрэбіцца вам. Добра ведае гэтую справу... стары кантрабандыст...

-- Хай застаецца. Месца хопіць, хлеба таксама, а паліцыя да мяне ня езьдзіць. Суседзяў таксама няма... не данясуць...

Тады я ўмяшаўся ў іх размову:

-- За ўтрыманьне я магу заплаціць. Грошай у мяне дастаткова.

Адразу ўбачыў, што павёў сябе нетактоўна. Паглядзеўшы мне ў вочы, Мацей зьлёгку ўсьміхнуўся і вымавіў:

-- На грошы я ня ласы. Меў і магу мець пад дастаткам, але не ганяюся за імі. Ты, хлопча, прыхавай для сябе. Спатрэбяцца, яшчэ малады!

-- Даруйце. Не хацеў вас пакрыўдзіць.

-- Нічога. Мяне не абразіш, я да гэтага ня прыткі. Для добрага чалавека ўсё і задарма зраблю, а дрэннага, хай ён з золата будзе, у вочы бачыць не хачу!

Увечары, разьвітаўшыся, Лорд разам з Базылём вырушыў у мястэчка. Паабяцаў прыходзіць час ад часу або прысылаць Шчура. Пайшоў правесьці іх. Не заўважылі, як дайшлі да Душкава. Там, папрасіўшы Лорда часьцей прыходзіць, я пабег па дарозе да хутара.

Назаўтра Базыль вярнуўся. Прынёс мне вялікі пакунак і ліст ад Лорда.

Адклаўшы набок пасылку, пачаў чытаць ліст:

"Прывет, Вар'ят!

Ведаю, што табе сумна ў Даўрыльчукоў, але ты пацярпі. Да вясны, можа, штосьці прыдумаем. У мястэчка ты не прыходзь, бо цябе зноў апыляць. Трымайся Даўрыльчукоў -- там мяліна надзейная, мураваная. А калі будзе штосьці патрэбна, прышлі Базыля.

Альфрэд распытвае пра цябе ў паўстанцаў, але ніхто ня ведае, дзе ты. Учора ў Гінты Анёл аддубасіў яму скуру -- Альфрэд адбіў у яго Зоську Колбаўшчанку. Цяпер Анёл, нібы д'ябал, зацяўся на таго. Кажа, што выверне яго падшыўкай наверх. Бэлку Альфрэд ужо пусьціў кантам. Цяпер зь яе сьмяюцца: называюць салдаткай.

Табе там сумна, але і нам ня весела. У дарогу ня ходзім. Хлопцы робяць гранды: штодня б'юцца. Размаўляў са Шчурам. Ён сказаў, што прыйдзе да цябе пасьля нядзелі.

Я купіў тут усялякай дробязі. Хусткі аддай кабетам, а рэшту -- як хочаш.

Пятрок Філосаф пытаўся пра цябе. Сказаў яму, што ты здаровы і жывеш у добрым месцы. З Юлікам Вар'ятам дрэнна. У яго сухоты. Да вясны, напэўна, не дацягне. Каўкне. Шкада хлопца.

А больш нічога новага няма. Калі нешта будзе, дык напішу табе.

Ну, заставайся.

Болек".

У пакунку было пяць вялікіх ваўняных жаночых хустак, дзевяць пляшак сьпірытусу, некалькі кілаграмаў цукерак, ангельская люлька, шмат тытуню і папяросаў.

Адну хустку я аддаў гаспадыні, астатнія -- дзяўчатам. Яны спачатку не хацелі браць тыя прэзенты. Малодшая, Насьця, вымавіла:

-- Як татка захоча!

Тады Мацей кажа:

-- Ты што, хочаш, каб я ў бабскай хустцы хадзіў?

Усе рассьмяяліся, і дзяўчаты прынялі падарункі. Мацею на памяць я даў люльку. Агледзеўшы яе, ён прамовіў:

-- Старая люлька, як старая жонка: верная і надзейная, але і маладая часам спатрэбіцца! -- і міргануў вокам сынам.

Зноў сьмех.

Вечарам за сталом выпілі дзьве бутэлькі разведзенага вадой сьпірытусу. Усё адбылося спакойна, без галасу. Я частаваў мужчын гарэлкай, а дзяўчат, паколькі ад гарэлкі наадрэз адмовіліся, цукеркамі.

Так я пачаў жыцьцё ў Даўрыльчукоў...

**Працяг.**

**Пачатак у №№ 29—52.**

## СКАРБНІЦА

# МАГІЛЁЎСКІ ДОН ЖУАН



Ліпень 1941-га... Вайна набрала сваю хаду. Паменшала шапказакідальнікаў моцнага і жорсткага ворага. Настрой -- змрочны. І ў ленінградцаў, канешне ж, таксама. Ды ўсё ж магутны горад... Магутны найперш сваёй культурай. І Ленінград не маўчыць. Музыка, паэзія, плакат -- усё ў пошуку найбольшай выразнасці гневу ўсенароднага. Сярод іншых мерапрыемстваў музычны канцэрт у знак 100-й гадавіны з дня гібелі Міхаіла Лермантава. Пэўна ж, сярод іншых твораў паэта гучалі і такія радкі:

**Люблю Отчизну я, но странною любовью!**
**Не победит ее рассудок мой.**
**Ни слава, купленная кровью,**
**Ни полный гордого доверия покой,**
**Ни темной старины заветные преданья**
**Не шевелят во мне отрадного мечтанья.**

Слухаў верш і Сяргей Мігай. Ён арганізаваў гэтую вечарыну. Пра што думаў тады сталага веку спявак? Мо ўспамінаў родны Магілёў, яго ваколіцы? Успамінаў "дымок спаленной жнивы, В степи ночующий обоз И на холме средь желтой нивы Чету белеющих берез". Думаў пра тое, што Беларусь ужо ў полымі вайны. Што ж рабіць зараз яму? Канешне ж, па-ранейшаму, з яшчэ большым імпэтам працаваць. Канешне ж, дапамагаць людзям не згубіць веры, надзеі на перамогу. Тым больш, што ёсць з чым прыйсці да людзей. За плячыма -- вялікі вопыт, доўгае сцэнічнае жыццё. І колькі сцэн, акрамя вось гэтай -- у зале Ленінградскай акадэмічнай капэлы -- знаёма яму?!

Нарадзіўся ж Сяргей Мігай 18(30) мая 1888 года ў Магілёве ў сям'і святара. З шасці гадоў спяваў у царкоўным хоры. Пасля -- у хоры магілёўска гімназіі (часам нават сольныя партыі). Захапляўся ігрой на флейце. І, канешне ж, меў свабодалюбівы характар, хаця дома правіў кансерватыўна-праваслаўны дух. Традыцыі ж вольнасці, свабоды -- гэта ўсё панавала ў гімназіі. Менавіта яе ў розныя часы скончылі ўдзельнік падрыхтоўкі замаху на Аляксандра II Р. Ісаеў, адзін з кіраўнікоў народніцкага руху 1870-х гадоў у Рас С. Кавалік, дзеяч міжнароднага рэвалюцыйнага руху і вучоны-прыродазнавец М. Судзілоўскі, беларускі пісьменнік і вучоны М. Грамыка. У пачатку XX стагоддзя тут быў створаны нелегальны гурток, якім кіравала мясцовая арганізацыя РСДРП.

У 1907--1909 гадах Сяргей Мігай вучыўся на юрыдычным факультэце Пецярбургскага універсітэта, адначасова займаўся вакалам у Пецярбургскай кансерваторыі (клас С. Габеля). Станіслаў Габель -- з адметных выкладчыкаў і педагогаў. Гэта яму прысвяцілі свае рамансы М. Рымскі-Корсакаў ("Эха") і В. Арлоў ("Усходняя кветка"). Сярод вучняў Габеля -- многія славутасці. Дарэчы, і сам Габель у свой час па тэорыі музыкі навучаўся ў нашага суайчынніка Станіслава Манюшкі.

Ды толькі нядоўгім было сталічнае жыццё нашага земляка. За ўдзел у студэнцкіх хваляваннях Сяргея выключылі з універсітэта. Мігай пераязджае ў Адэсу. Паступае на юрыдычны факультэт Навасібірскага універсітэта. Музыку, спеваў не кідае. Адначасова (у 1909--1911 гадах) навучаецца спевам у Адэскім музычным вучылішчы (клас Ю. Рэйдэра).

Спакваля перамагае мастацтва. 4 снежня 1909 года Сяргей упершыню выступае на канцэртнай сцэне. Выконвае арыю князя Ігара. Таленавітага маладога чалавека заўважыла Антаніна Няжданава. Па тым часе -- салістка маскоўскага Вялікага тэатра. Выкананне яе, па словах Неміровіча-Данчанкі, адрозніваецца "шчырай прастатой і сапраўднай душэўнай высакароднасцю". Відаць, такімі ж былі не толькі творчыя, а і чалавечыя якасці спявачкі. Антаніна Няжданава і рэкамендавала пачынаючага спевака ў Вялікі тэатр. Там адбыўся дэбют Сяргея Мігая ў ролі Валянціна ("Фауст") у красавіку 1912 года. Наступныя дванаццаць гадоў наш зямляк -- на сцэне Вялікага тэатра. Працаваў жа тут Мігай і ў 1927--1930 гадах, а таксама гастраляваў у 1935--1938...

Лепшыя партыі ў маскоўскім Вялікім тэатры Мігай выканаў у операх "Дэман" А. Рубінштэйна, "Снягурка", "Мазепа" П. Чайкоўскага, "Севільскі цырульнік" Дж. Расіні. Артыст з князя Ігара пераўвасабляўся ў Мазепу, з Мазепы ў Рэната, Эскамілія, Тэльрамунда, Рыгалета, Жэрмона, Мілера... Настойліва, самааддана працаваў Мігай. З лютага 1912 года навучаўся спевам (звыш 100 урокаў) у М. Бацісціні, які гастраліраваў у Маскве. Малады спявак не мог не вучыцца. Поплеч з ім на сцэну выходзілі Леанід Собінаў, Фёдар Шаляпін, Антаніна Няжданава. Праз многія гады Сяргей Іванавіч раскажа пра сумесную працу з імі ў шматлікіх успамінах. Заўважыць чужое майстэрства, захапіцца ім, зразумець вартасць урокаў у паплечнікаў -- гэта ці не высакародная рыса характару?!

Адна з яркіх работ Сяргея Мігая -- партыя Дон Жуана. Работу над гэтым сцэнічным вобразам спявак пачаў яшчэ ў час вучобы ў Бацісціні. Тады тэорыю, практыку, вакальную тэхніку настаўнік і вучань якраз і адпрацоўвалі на партыях Дон Жуана, Фігара і Жэрмона. Класічныя вобразы натхнілі тады на штурм новых музычных вяршынь. У 1929 годзе ўпершыню Мігай выступіў на сцэне ленінградскага Дзяржаўнага акадэмічнага тэатра оперы і балета. І менавіта ў оперы "Дон Жуан" выканаў аднайменную партыю. Адзін з музычных крытыкаў у свой час наступным чынам характарызаваў творчую манеру Мігая: "Бясспрэчная канцілена, верхнія ноты, у каторых, здавалася, ён "купаўся", былі лёгкімі, нязмушанымі, пазбаўленымі ўсялякай фразіроўкі, і трапнае, ясчае слова пры абсалютна чыстай інтанацыі. Голас быў яму падуладны на фортэ і піяна... Ён спяваў на гуку, які ліўся бесперапынна. Так, гэта была канцілена ў самым лепшым значэнні гэтага слова. Мяккасць яго голасу злівалася з прыгожым тэмбрам, стварала пластычнасць, пры каторай рэчавыя інтанацыі былі цесна звязаны з музыкай, што ў цэлым складала характэрную, жывую, музыкальную мову".

Усяго ж рэпертуар магілёўскага Дон Жуана складаў 65 партый. З іх 43 -- вядучыя. Дзякуючы віртуознаму тэхнічнаму майстэрству, з роўным поспехам выступаў у лірычных і драматычных вобразах.

Праз усё жыццё Сяргей Іванавіч вызначаўся надзвычайнай працавітасцю. Тэатр ніколі не заставаўся адзіным месцам працы Мігая. Спявак актыўна займаўся канцэртнай дзейнасцю. І асабліва ў 1912--1946 гадах. Дуэты А. Даргамыжскага і М. Глінкі неаднойчы Мігай выконваў разам з А. Няжданавай і Л. Собінавым. З 1912-га наш зямляк удзельнічаў у канцэртах гуртка аматараў рускай музыкі. Цікавыя адмеціны творчай, жыццёвай біяграфіі Мігая -- выкананне кантат С. Рахманінава "Вясна" і "Званы" пад кіраўніцтвам самога аўтара. А з 1918 года Сяргей Іванавіч даваў сольныя канцэрты ў ансамблі з вядомым піяністам Ульрыхам у Маскве, Ленінградзе, Казані, Пензе, Смаленску. Невядома, праўда, ці выступаў Мігай на Беларусі. Ды калі і выступаў, то хутчэй за ўсё толькі ў Мінску. Астатнія ж гарады былі абкладзены межамі правінцыйнасці. У Мінск жа прыязджалі многія тагачасныя зоркі. З канцэртамі выступалі Рыгор Камісаржэўскі і Наталля Карафа, Марыя Карская і... Мінчане маглі слухаць самыя розныя галасы, адкрываць самыя розныя вобразы. І шкада, калі на гастролі ў сваю Айчыну не наведваўся славуты наш земляк, чыім імем сёння названа тая магілёўская вуліца, па якой Сяргей Мігай хадзіў на заняткі царкоўнага хору, бегаў у гімназію.

Узрост і вайна не зламалі сталага майстра опернай сцэны. Сяргей Іванавіч як ніколі многа выступаў. Камерны рэпертуар Мігая налічваў звыш 500 твораў. Канцэртная ж праграма складалася з твораў аднаго--двух кампазітараў (Глінка і Даргамыжскі, Чайкоўскі і Рахманінаў) ці прысвячалася пэўнай тэме. Так, у свой час, яшчэ перад вайною, Мігай праводзіў канцэрт памяці А. Пушкіна, у якім выканаў рамансы А. Вярстоўскага, А. Гурылёва, К. Кавоса, М. Глінкі, А. Глазунова, М. Рымскага-Корсакава, Ю. Шапорына. Быў яшчэ і ўпадабаны аматарамі музыкі "Вечар італьянскіх арый і неапалітанскіх серэнад". З замежнай класікі Мігай аддаў перавагу творам Ф. Шуберта (з піяністам К. Ігумнавым падрыхтаваў 12 песень), Э. Грыга.

...Лермантаўскі вечар надоўга застаўся ў памяці ленінградцаў. Наперадзе была блакада. Наперадзе -- выпрабаванне. І многія тысячы людзей адолелі вайну, не здаліся смерці. Дапамагала любоў да жыцця. Моцы, сілы надавала і высокае мастацтва. Музыка, песні -- таксама. Песні, арыі, серэнады, рамансы, якія выконваў наш суайчыннік -- Сяргей Мігай родам з Магілёва.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

## З ПАЭТЫЧНАГА СШЫТКА

**Галіна ТВАРАНОВІЧ**

* * *

*Дануце Трыбухоўскай-Шпрынгман*

**Добра знаёмаю сцежкай, як некалі**
**з прасторнай бацькаўскае хаты**
**у польнай сваёй Гаспаўшчыне, --**
**вось гэтак цяпер імкнеш**
**з маленькага Парыжу на Эльбе:**
**чароўны манаршы Дрэздэн,**
**вабнасць Саксонскай Швейцарыі!..**
**Мінаеш, атуленая накцюрнамі,**
**радзіму шляхотнага Фрэдэрыка,**
**лёгка падпарадкоўваючы сабе**
**нязручнасці й недарэчнасці межаў,**
**якія бязлітасна крэсляць цела Еўропы**
**і нішчаць рухі нашых мажлівасцей...**
**Ты спяшаеш на чарговую стрэчу,**
**абмінаеш зачыненыя дзверы,**
**свабодна ўваходзіш у мае сны,**
**распаўсюджаныя па адной з цесных**
**чалавечых шпаковень Зялёнага Лугу,**
**прынадна аточанага хвойнікамі**
**з салодка паснулымі вавёркамі..**
**Ці гэтак жа проста ты знаходзіш**
**мяне ў сціплай драўлянай хаце**
**ля Пцічы на ўскраіне Дараганава,**
**калі не спяць адно таемныя кажаны...**
**Заўсёды радая табе, што той чаканай**
**першае кветцы й матылю па вясне,**
**не паспяваю -- марудлівая! -- дазнацца,**
**які ж гэта пільны дзённы клопат**
**выправіў цябе ў начную вандроўку...**

* * *

**Бунтоўнай стыхіі**
**мецьбы ўсё разам --**
**і квадру, і поўню, і маладзік.**
**Прагным глытком асушыць**
**гарачую чару да самага дна.**
**....................................**
**Завязь сыплецца долу --**
**студзіць паспешлівасць**
**расчараваннем.**

* * *

**Непрыдуманы...**
**недасягальны...**
**шчоты глыток**
**ырая ластаўка ў дзюбцы**
**мо шчэ калі прынясе...**
**па нясмелай маёй...**
**па нашай вясне...**
**прынясе...**

* * *

*Сябру*

**У мяне, смяротнай,**
**пытаешся пра тое,**
**што ведама**
**толькі Неўміручаму,**
**Дасканаламу**
**і Таемнаму нашаму**
**Богу-Бацьку,**
**воляй Якога разгорнута**
**дзівосная мапа Сусвету**
**з горнім і дольнім**
**паверхамі.**

**Пэўна знаю адно:**
**дарэмна чакаць прызнання**
**нябёсаў абранніку**
**у цяснінах чалавечага шляху.**

### У ЛЮТЫМ

**Мой цень, ублытаны**
**у цені дрэў аціхлых,**
**нацянькі скрозь голле**
**паперад кроку забягаў,**
**а паслухмяны быў хадзе.**
**І пацеркі ніводнай**
**на асфальт не строс**
**з вільготнай кроны,**
**як пастух аблокаў --**
**парывіста-нястрымны.**
**Нароўні з ліхтарамі**
**той і поўні замінаў --**
**гаспадыняй чуць сябе**
**над горадам, што засынаў**
**у ценю подумак аціхлых...**
**Нацянькі, каб не пазніцца**
**у сон, спяшалася й я...**

### ГОСЦЬ

**Акно было адчынена.**
**І госць прыйшоў**
**на чацвёрты мой паверх.**
**Павітаўся перш з фіялкай,**
**пасля натрапіў на лісты...**
**Гартаць пачаў ён звыкла,**
**як без розніцы яму было,**
**што гэта не бярозак голле,**
**кнігі прозы, кнігі вершаў...**
**Ласкава кратаў і шаптаў --**
**пра што не знаю ўжо.**
**Баялася я госця спудзіць.**
**Твае лісты чытала.**
**Акно было адчынена**
**да самае начы...**

* * *

**Праз фіялеты маіх фіялак**
**Самота плыве бы фатальна.**
**Безгалоссем сіняе сцюжы**
**Агніцца самота пытальна.**
**Мараю пра развітальнасць**
**Надзеі лагодзяць нясмела.**
**Ды ў фіялетах маіх фіялак**
**Праз шыбы драўлянае хаты**
**Самоце гучаць звычайна.**
**Самоце не знаць спачыну.**

**Мо знаеш, мой чуйны**
**дружа, знаеш,**
**Колькі шчэ фіялетам**
**вечных фіялак**
**Да мройнага берагу**
**стомлена плыць...**



**У снежні ў Беларускай дзяржаўнай філармоніі з поспехам прайшоў аўтарскі вечар кампазітара Ігара Паляводы. Усе творы аўтара выконваліся канцэртным аркестрам Беларусі пад кіраўніцтвам народнага артыста Беларусі Міхаіла Фінберга. Песні на музыку І.Паляводы выконваў Валерый Дайнека і Іна Афанасьева, Ларыса Грыбалёва, Якаў Навуменка, Анжэліка Ют і многія іншыя вядомыя салісты рэспублікі. Вяла праграму Зінаіда Бандарэнка.**

**Фота Генадзя СЯМЁНАВА.**









# "КАЛЯДНЫЯ ЎЗОРЫ"

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Найстаражытнейшая, паводле навукоўцаў, ад часоў неаліту, тэхніка гартаванай керамікі вабіць надзвычай сучасным каларытам і дэкаратыўнасцю. Усяго не перакажаш. Трэба бачыць. Твораў сотні. Але ніводзін з іх не губляецца на выставе, так умела яны размешчаныя. У каго ёсць прага эстэтычнага перажывання, той можа спатоліць яе тут.

У дзень вернісажу, 14 снежня, прысутных было багата -- майстры, іх сябры, арганізатары, аматары мастацтва, проста наведвальнікі.

Шум, радасная мітусня, ззянне святла і вачэй, прыгожыя строі на спадарынях і спадарах -- свята. Не называю ўсіх майстроў, удзельнікаў выставы, іх дзесяткі. Але пяць прозвішчаў назаву: Ларыса Лось, Ніна Сокалава-Кубай, Таісія Агафоненка, Лідзія Главацкая, Сяргей Несцярэўскі. Гэта стыпендыяты 1995 года. Яўген Сахута паведаміў, што дзяржава знайшла сродкі матэрыяльна падтрымаць такіх выдатных майстроў, каб турботы пра хлеб надзённы не заміналі іх творчасці.

На пачэсным месцы выставы разгорнутыя тканыя ручнікі майстрыхі са Случчыны. Яна выяўляе душу беларусаў праз адвечныя колеры і тчэ так, як ткалі нашыя даўнейшыя майстрыхі стагоддзі і стагоддзі таму назад -- чырвоным па беламу, адзначыў у прамове дырэктар музея І.Загрышаў.

Радасна быць на гэтай выставе. Энергія дабра зыходзіць з кожнага твора...

Зьміцер КАЛІСТРА.

# ПУНКЦІР ЖЫЦЦЁВАГА ШЛЯХУ

(Заканчэнне. Пачатак на 4-й стар.).

і знайдзі я сёння які-небудзь захаваны скарб, дык, кажу вам, нават заўтра беларускі народ прыдбае тысячы неспадзяваных дабрадзеяў!

Але чалавек я невялікі, захаваны скарб толькі ў казках знаходзяць -- і яшчэ больш нудна, яшчэ больш цісне ў грудзёх..." (апавяданне "Пад спеў кашавы").

"Хіба ж не шчасце -- бачыць і мець Айчыну. Вялікае гэта шчасце, бязмежнае... Шчасце людское заўжды звязана з родным краем, без якога быць шчаслівым немагчыма" (п'еса для дзяцей "Наша шчасце").

Дарэчы, апошняя цытата -- з твора, напісанага па-сербскахарвацку. Міхал Запольскі спрабаваў таксама рэалізаваць свае творчыя магчымасці на мове асяроддзя, у якім апынуўся. Прычым не без поспехаў. Вось пацвярджэнне: часопіс "Жэлэзнічкі венац", падводзячы вынікі творчага конкурсу, абвяшчаў, што "прэмію памерам 400 дынараў атрымаў пан Міхайла Запольскі -- за фельетон "Бялявая пані", надрукаваны ў 15-м нумары 1933 года".

Творчасць гэтага перыяду жанрава шматстайная -- вершы, апавяданні, п'ескі для дзяцей, казкі, гумарэскі, фельетоны, нарысы. Захаваліся многія дзесяткі выцінак з перыядычных выданняў, а таксама дзве кніжкі -- "Локомотива" ("Лакаматыў"), што выйшла ў 1934 годзе, і "На железничким шинама" ("На чыгуначных рэйках"), датаваная 1939 годам. Абодва зборнікі, выдадзеныя ў Бялградзе, уключаюць кароткія апавяданні пра жыццё чыгуначнікаў з трапнымі назіраннямі, жывымі сцэнкамі, тыпажнымі героямі, так званымі "малымі людзьмі". Цікава адзначыць, што адзін з рэцэнзентаў параўноўваў Запольскага з Зошчанкам. Было тут пэўнае імкненне зрабіць камплімент. Аднак сямейнае паданне ўтрымлівае звесткі пра блізкае знаёмства нашага супляменніка з славутым сербскім гумарыстам, сатырыкам Браніславам Нушычам. Патрабуе ўдакладнення і гэта, і згадкі, што ў Бялградскім дзіцячым тэатры ставіліся п'есы М. Запольскага, якія мелі поспех.

Як бы там ні было, нават дакладна вядомае дае права сцвярджаць, што эмігрант-беларус у Югаславіі паступова здзяйсняўся як літаратар.

Але распачалася другая сусветная вайна. Вядома, у той час на першым плане апынуліся літаратурна-творчыя клопаты. Зрэшты, можа проста не дайшлі да нас публікацыі і рукапісы. А вось даведка-характарыстыка, выдадзеная Панчаўскім гарадскім народна-вызваленчым камітэтам 25 лістапада 1944 года, захавалася. І змест яе такі: "Названы ў час акупацыі быў цалкам сумленных палітычных і маральных паводзін, не з'яўляўся членам ніякіх фашысцкіх арганізацый..." Са свайго боку, дадамо, што старэйшы сын Барыс -- натуральна, гэтага не мог не ведаць бацька -- браў удзел у антыфашысцкім руху, ваяваў на баку партызанаў.

Вайна скончылася. Утварылася Федэратыўная Народная Рэспубліка Югаславія. І жорсткія выпрабаванні для Міхала Запольскага пайшлі ў новым колазвароце. У 1948 годзе распачаўся так званы савецка-югаслаўскі крызіс. Улада Іосіфа Броз Ціта пачала рэпрэсіі ў дачыненні да ўсіх, каго толькі можна было западозрыць у неправавернасці, нават патэнцыяльнай. Калі вывяраць тыя падзеі звычайнай логікай, шмат чаго здаецца неверагодным. А рэальнасць была такой: тэрор быў скіраваны і ў бок даўніх эмігрантаў з былой Расіі, г.зн. тых, хто паводле духу заўжды быў супраць Сталіна, Саветаў. Не паспелі яны дарэшты пазбавіцца комплексу чужынцаў, як набылі раптам клеймы ворагаў. Міхал Мікалаевіч, хоць і меў значны стаж, працоўны вопыт, працу страціў. Старэйшы сын яго Барыс, які пасля вайны папрацаваў у прадстаўніцтве фірмы "Філіпс", праявіў здольнасці ў справах электратэхнікі, па накіраванні стаў вучыцца на тэхнічным факультэце універсітэта, а паралельна -- на мастацкім, трапіў у палітычную турму Баніца. Суд быў хуткі, прысуд кароткі: юнака -- у зняволенне, а сям'ю на працягу 24 гадзін -- прэч з краіны. Меншы сын Аляксандр, тады навучэнец мараходнай вучэльні, падаўся шукаць долі ў Польшчы (дзе потым стаў-такі флоцкім механікам, пусціў карані ў Гдыні, памёр у 1988 годзе). А бацька з маткаю перабраліся ў суседнюю Балгарыю. І там чакалі, не ведаючы, што рабіць. Тым часам Барыс перажыў здзекі, катаванні, тры вывады на расстрэл. Але, дзякуючы заступніцтву ўплывовых саратнікаў партызанскай пары (ці эміграцкіх аўтарытэтаў?), праз год з нечым быў вызвалены, уз'яднаўся з бацькамі, акрыяў, паступіў у Сафійскі політэхнічны інстытут, які выдатна скончыў. У Балгарыі Барыс знайшоў сабе палавіну, студэнтку медыцыны Марыйку Стойчаву Шуплеву.

За гэты час Міхал Мікалаевіч змог уладкавацца, як і ў Югаславіі, на чыгунку, спрабаваў вярнуцца да літаратурных заняткаў, пра што сведчаць ягоныя допісы ў балгарскія газеты.

Між тым нібыта мяняўся палітычны клімат у Савецкім Саюзе. Хрушчоў выступіў з заклікам да тых, хто калісьці эмігрыраваў у Югаславію, а там пацярпеў, каб вярталіся на радзіму -- іх, маўляў, чакае поўная рэабілітацыя, працаўладкаванне па спецыяльнасці, высокі савецкі дабрабыт і г.д. Сапраўднай веры ў гэтыя абяцанкі Запольскія, відаць, не мелі. Ды клікала ж назад быццам бы радзіма. І гэта перамагло. Забраўшы юную нявестку, выехалі з Балгарыі ў СССР.

Далей усё адбывалася па законах драматургіі сацрэалізму. Сям'я -- а дакладней, ужо дзве сям'і -- Запольскіх па накіраванні зверху апынаецца ў стэпавым саўгасе "Радзішчава" Саратаўскай вобласці, дзе Міхалу Мікалаевічу даюць пасаду кладаўшчыка, а Барыса Міхайлавіча прызначаюць механікам перасоўнай электрастанцыі. Жыллё (прычым "у парадку выключэння") атрымалі пад дахам гаспадарчай будыніны. Як дзейнічалі такія ўмовы, здагадацца няцяжка. У хуткім часе моцна захварэла жонка, Марыя Васільеўна, вылечыць яе не ўдалося, так і пахавалі.

Для Міхала Мікалаевіча настаў перыяд роспачы, дэпрэсіі. Далей жыць на чужыне было немагчыма. А брат і сёстры, якія заставаліся ўвесь час на Беларусі, па вядомых прычынах сваяцкіх пачуццяў не дэманстравалі. Ішоў тады 1955 год. Нарэшце сястра Вольга Мікалаеўна адважылася-такі і паслала афіцыйны выклік, як патрабавалі тагачасныя правілы. Гэта ўспрынята было, натуральна, як ратунак.

У кастрычніку 1955 года Міхал Запольскі вярнуўся на Бацькаўшчыну, адарваны ад якой быў тры з паловаю дзесяцігоддзі. Ён, ужо шасцідзесяцідвухгадовы, да таго ж навучаны горкім вопытам, разумеў, што наіўна спадзявацца на ціхую гавань, бо палітычныя сістэмы не мяняюцца раптам і канчаткова. Але родная зямля пад нагамі ўяўлялася надзейным апірышчам. Акрамя таго, побач знаходзіліся высокаадукаваны, з рэдкай тады спецыяльнасцю інжынера-тэлевізійшчыка сын і сардэчная, руплівая нявестка. Сын, дарэчы, хоць і не без праблем -- палітэмігрант і беспартыйны, -- уладкаваўся працаваць на Рэспубліканскую студыю тэлебачання, якая тады толькі стваралася, а неўзабаве стаў вядучым спецыялістам гэтай перспектыўнай арганізацыі. Дзякуючы яму, сям'я перабралася з пакойчыка, які наймала ў прыватным доме, у Калодзішчы. Барыс Міхайлавіч, як работнік сістэмы сувязі, атрымаў дазвол заняць пад жыллё адно памяшканне ў будынку мясцовага радыёвузла. Сяк-так наладжваўся побыт. Міхал Мікалаевіч, паколькі дамагаўся працаўладкавання, быў накіраваны лабарантам у Інстытут харчовай прамысловасці. Пры гэтым ён не страчваў надзеі, што зможа ўключыцца ў культурнае жыццё рэспублікі, будзе, як калісьці, супрацоўнічаць з газетамі і часопісамі сваёй Радзімы. Вагаўся, кажуць, але ў рэшце рэшт пайшоў да рэдактара "Советской Белоруссии" -- маўляў, я вось такі і такі, вярнуўся, хачу быць карысны. А пачуць давялося, як пераказваў потым дома, наступнае: "Вярнуліся? Ну-ну... Ды не цешце сябе ілюзіямі, што вы тут патрэбны вельмі... Без вас мы абыходзіліся і абыдземся".

Няўдзячны занятак -- распісваць тое, чаго сам не перажыў. Горыч пасля такога прыёму толькі прыблізна ўявіць можна, здагадваючыся, што яна была не меншая, як пад канец цаліннага перыяду. Аднак свет, як вядома, не без добрых людзей. Знаходзіліся такія і на беларускай зямлі. Напрыклад, кіраўнік тэлестудыі, які сам рызыкаваў, але ўзяў на працу і падтрымліваў сына Барыса. Прозвішча гэтага чалавека, паводле згадак нявесткі, Несцярэнка. Адштурхнутаму і зняверанаму Міхалу Мікалаевічу пасагадала потым супрацоўніца газеты "Сталинская молодежь" Лідзія Васкоўцава. Нягледзячы ні на што, яна спрыяла, каб колішні замежны карэспандэнт заходнебеларускага друку мог хоць неяк сцвердзіцца ў змененых акалічнасцях і вярнуцца да звыклай справы. Тады ў рускамоўнай маладзёжнай газеце пайшлі публікацыі на балгарскую тэматыку -- напрыклад, "Журнал дружбы", "Столетие читалищ", "88-летний поэт", "Столетие театра", "Хорошая традиция". Праўда, з подпісам нявесткі -- М. Шуплевай-Запольскай. Гэткае "перадаверанае" аўтарства маюць, дарэчы, і адрасаваны балгарскай газеце "Литературен фронт" артыкул пра К. Крапіву, і аўтарызаваны пераклад апавядання Н. Яворскага "Маці", і п'есы-аднаактоўкі, разлічаныя на калектывы мастацкай самадзейнасці. Міхал Мікалаевіч пасля вяртання ў Мінск пісаў, акрамя згаданага, творы розных жанраў для дзяцей, а таксама вершы, абразкі-ўспаміны, гумарэскі і перакладаў. Толькі ў друк трапіць усяму гэтаму не давялося.

10 кастрычніка 1956 года, калі надышла другая восень пад небам вернутай Радзімы, Запольскі Міхал Мікалаевіч адышоў на вечны спакой. Апошні прытулак дала-такі зямля, на якой быў народжаны і ўзгадаваны.

На студзень 1993 года прыпадаў стогадовы юбілей М. Запольскага. Адзначыць яго не давялося. Гэтаксама, як і вырашыць лёс асабістага архіва, падрыхтаваць кнігу выбраных твораў, высветліць адпаведную ролю ў культурна-гістарычных працэсах, развіцці літаратуры. Асабліва прыцягвае ўвагу ягонае пасрэдніцтва паміж культурамі -- роднай беларускай і іншанацыянальнымі, яму таксама не чужымі. Падкрэслім: справа датычыцца літаратара, спадчына якога ўключае захаваныя творы на чатырох мовах, а ёсць яшчэ звесткі, што ён друкаваўся і ў польскіх часопісах.

Мяркуючы па ўсім, Міхал Запольскі не прэтэндаваў на ролю класіка нацыянальнай літаратуры, ад сваіх нашчадкаў па крыві і па агульнай справе не чакаў, што ўздымуць яго на высокі п'едэстал. Ён проста выконваў свой жыццёвы абавязак так, як разумеў яго і як мог.

А мы, на жаль, яшчэ не ўсвядомілі свайго абавязку ў адносінах да гэтай асобы з тыпова беларускім характарам і адпаведным лёсам.

Іван ЧАРОТА.

